# Як у Светлагорску трое малых дзяцей маглі збегчы незаўважанымі з дзіцячага садка?..

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


№ 2 (4254)

5 студзеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Са святам Божага Нараджэння!

Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

## Малітоўна жадаю вам добрага здароўя, міру, дабрабыту!

**(З Раджэственскага паслання мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі)**

Узлюбленыя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры, пачэснае прасвітарства, у Хрысце дыяканства, богалюбівы манаскі чын, дарагія браты і сёстры!

Сардэчна, са светлай радасцю вітаю вас і віншую з найвялікшай спасіцельнай падзеяй: прышэсцем у свет Сонца Праўды – Хрыста, Бога нашага: *«Слова стала плоцցю, і жыло сярод нас, і мы бачылі славу Яго ад Айца, славу як Адзінароднага, поўнага благадаці і ісціны»* (Ін. 1:14). Прыйшоў на зямлю Сын Божы, каб выратаваць свет, вызваліць чалавека ад страху смяротнага і ад самой смерці, дараваць паўнату быцця ў Богу і жыццё вечнае кожнаму, хто пачуе заклік Яго і рушыць услед за Ім.

У сваім пасланні апостал Павел звяртаецца да карынфскіх хрысціян, а праз іх і да кожнага з нас, з адным з такіх заклікаў: *«Праслаўляйце Бога і ў целах вашых, і ў душах вашых, якія належаць Богу»* (1 Кар. 6:20). Галоўны сэнс гэтага закліку заключаецца ў тым, каб мы не толькі дзякавалі Богу і ўзносілі Яму хвалу ў малітвах і песнапеннях, але і прыносілі добры плён – справы любві і міласэрнасці на славу Божую, на славу Царквы, на карысць Айчыны і на карысць бліжняга, несучы *«цяжары адзін аднаго»* (Гал. 6:2) – і ў радасці, і ў бядзе.

Гасподзь запаведаў нам любіць адзін аднаго, захоўваць царкоўнае адзінства, несці людзям мір Хрыстоў і дабро, быць незласлівымі і цярплівымі, быць руплівымі ў малітве і ў служэнні слабым і абяздоленым. *«Па тым пазнаюць усе, што вы Мае вучні, калі любоў будзеце мець паміж сабою»* (Ін. 13:35), – кажа нам Спасіцель і Гасподзь – Іісус Хрыстос. Прылучаючыся да гэтай найдасканалейшай Божай любові, мы атрымліваем непераможную зброю *«супраць злых духаў паднябесных»* (Эф. 6:12), атрымліваем здольнасць паспяхова супрацьстаяць усім выклікам часу.

Зноў наступіла прамяністае свята Раджаства Хрыстовага, свята гарачай веры і непасаромленай надзеі на Промысл Божы, які вядзе да дабра кожнага чалавека. Зноў раскрываецца неба над зямлёю, зноў раздаецца ангельскае славаслоўе, якое абвясціла свету *«радасць вялікую, якая будзе ўсяму народу: нарадзіўся … сёння ў горадзе Давідавым Спасіцель»* (Лк. 2:10-11). Разам з ангеламі мы зноў заклікаем заспяваць славаслоўе народжанаму Немаўляці Хрысту і, пакланіўшыся Яму, як гэта зрабілі ўсходнія мудрацы, прынесці ў дар «фіміям» сардэчнай малітвы, «золата» добрых спраў на славу Царквы і на карысць бліжняга, «міра» ахвярнага служэння бліжнім, і, прытуліўшыся да ясляў Хрыстовых, як віфлеемскія пастухі, славіць і хваліць *«Бога за ўсё тое, што чулі і бачылі»*.

Праасвяшчэнныя архіпастыры, дарагія айцы, браты і сёстры, мінулы год для многіх з нас быў няпростым, але, міласцю Божай, ён прынёс і нямала духоўнай радасці. Гэты год быў адзначаны многімі важнымі падзеямі ў жыцці нашай Царквы. Ва ўсіх епархіях архіерэі, клірыкі, набожныя веруючыя людзі займаліся вырашэннем надзённых пытанняў царкоўнага жыцця: упарадкаваннем епархіяльнай і прыходскай дзейнасці, стварэннем якасна новых прыходаў, якія закліканы стаць сапраўднымі праваслаўнымі абшчынамі, здольнымі да актыўнага ўдзелу ў царкоўнай місіі, з уключэннем у іх самай актыўнай сілы грамадства – моладзі; шмат увагі надавалася развіццю сацыяльных і асветніцкіх праектаў Праваслаўнай Царквы.

Святая Праваслаўная Царква заклікае кожнага з нас без ляноты працягваць працаваць над ачышчэннем і праабражэннем сваёй душы, паколькі духоўнае змяненне самога сябе – залог і аснова для праабражэння ўсяго народа нашай Айчыны.

Дарагія і ўзлюбленыя ў Госпадзе Праасвяшчэнныя архіпастыры і пастыры, інакі і інакіні, браты і сёстры! Ад усяго сэрца з любоўю ў Хрысце зноў і зноў віншую ўсіх вас з вялікім святам Раджаства Хрыстовага і з Новым годам дабрыні Гасподняй. Малітоўна жадаю вам добрага здароўя, міру, дабрабыту і невычарапальнай благадатнай дапамогі Божай у вашым жыцці, подзвігах і працы на славу Святой Царквы Хрыстовай, на карысць Айчыны і на дабро ўсім нашым бліжнім і дальнім. Амінь.

*(www.church.by)*

*(Захаваны стыль і арфаграфія крыніцы.)*

**ВЫБАРЫ–2018: ХРОНІКА**

### То густа, то пуста…

Цікавая заканамернасць высвятляецца пры аналізе складу абласных і Мінскай гарадской выбарчых камісій. Абсалютным рэкардсменам сярод партый, якія пазіцыянуюць сябе ў якасці апазіцыйных ці "канструктыўна апазіцыйных", з'яўляецца Ліберальна-дэмакратычная партыя: яе прадстаўнікі ўваходзяць у склад трох выбарчых камісій – Віцебскай, Гомельскай і Мінскай абласной.

Прадстаўнікі Партыі левых "Справядлівы свет" уваходзяць у склад Мінскай гарадской і Брэсцкай камісій.

У Магілёўскай абласной камісіі апазіцыянеры не прадстаўлены нават на ўзроўні ЛДП, а гродзенскія чыноўнікі не ўключылі ў склад абласнога выбаркама наогул ніводнага сябра партый – нават тых, што з'яўляюцца лаяльнымі да ўлады.

### Сацыял-дэмакраты не ў лідарах, але ж не здаюцца

Як паведаміў намеснік старшыні БСДП **Аляксей Сігаеў**, ад партыі вылучаліся ва ўчастковыя камісіі 21 чалавек: 10 па горадзе Мінску, 6 па Віцебскай і 5 па Брэсцкай абласцях. Вынік, як і трэба было чакаць, атрымаўся адмоўны. Аднак у акруговыя і тэрытарыяльныя камісіі ўключылі двух прадстаўнікоў сацыял-дэмакратаў – з 19 вылучаных.

### Супрацоўнічаць не прапаноўвалі…

Падчас сваёй кампаніі за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Навагрудскага гарадскога савета актывіст руху "За Свабоду" Вадзім Бабін быў затрыманы невядомымі, якія паказалі яму пасведчанні супрацоўнікаў КДБ і прапанавалі паразмаўляць. Суразмоўцы цікавіліся ўдзелам у выбарах руха "За Свабоду", а таксама асобных актывістаў арганізацыі. Прапаноў да супрацоўніцтва не паступала, і падпісваць нейкія паперы Вадзіму не давялося.

**Падрыхтаваў Алесь КЛЯЎЧУК.**

**НУ І НУ!**

# «Думаю, і загадчыцу садка звольняць па артыкуле…»

Учора інтэрнэт узарвала паведамленне аб надзвычайным, можна сказаць, дзікім здарэнні ў Светлагорску. Пад вечар 3 студзеня з мясцовага дзіцячага садка №21 зніклі тры хлопчыкі трох-чатырох гадоў. Хапіліся іх бацькі, калі прыйшлі ў садок за дзецьмі, а іх там не аказалася. Адразу ж патэлефанавалі ў міліцыю.

Амаль уся светлагорская міліцыя была паднята па трывозе. Хлопчыкаў шукалі супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх, следча-аператыўнай групы, крымінальнага вышуку, а таксама асабовы склад РАУС. У 18.11 з'явілася звестка: дзяцей знайшлі.

Маленькіх валацуг заўважылі работнікі Беларускай чыгункі ў дызель-цягніку, які ішоў са Светлагорска ў Жлобін. Машыніст **Яўген Новік** пазней расказаў журналістам: *«Мы ўжо адправіліся са Светлагорска. На пероне стаяў аглядчык вагонаў і крыкнуў нам у акно, што «ў вагоне малалеткі» – усё, што мы пачулі. Мы спачатку не ведалі, што гэта маленькія дзеці, думалі, можа, падлеткі, якія могуць курыць, піць у тамбуры, сцены размалёўваць. Таму я адправіў памочніка машыніста, каб схадзіў паглядзеў, што там за малалеткі. Ён вярнуўся і кажа, што ў вагоне маленькія дзеці – па тры-чатыры гады – едуць без бацькоў. Я патэлефанаваў дзяжурнаму па дэпо і растлумачыў сітуацыю, ён потымператэлефанаваў і сказаў, што выклікаў у Жлобіне міліцыю. Памочнік машыніста ўвесь шлях суправаджаў дзяцей, глядзеў, каб яны нідзе не выйшлі. Пытаўся, дзе бацькі, дзе яны жывуць. Дзеці не маглі толкам нічога адказаць: «Дома жывём, у горадзе». А ў якім – незразумела. Куды едуць, тлумачылі па-рознаму: «У іншы горад да мамы і таты, мы іх забылі». Потым казалі, што едуць да бабулі. Дзеці хацелі выйсці на станцыі Мормаль. Адзін з іх ўстаў і сказаў: «Ну ўсё, пагналі!» Памочнік машыніста спыніў малых».*

У Жлобіне дзяцей завялі ў апорны пункт, а потым вярнулі ў Светлагорск бацькам.

Ад якіх-небудзь каментарыяў бацькі катэгарычна адмаўляюцца, на кантакт з журналістамі не ідуць. Супрацоўнікі чыгункі здзіўляюцца, як такія малыя хлопчыкі змаглі патрапіць у вагон самастойна, бо ў ім вельмі высокія прыступкі. *«Каленкі былі брудныя, напэўна, станавіліся на калені, запаўзалі»*, – заўважыў Яўген Новік. Яшчэ больш насцярожвае такі факт: у вагоне было даволі шмат пасажыраў, але на дзяцей без бацькоў ніхто не звярнуў увагі. Добра, што пільнасць праявіў аглядчык вагонаў.

Жыхары Светлагорска здзіўляюцца, як дзеці ўвогуле трапілі на чыгуначны вакзал з дзіцячага садка, бо ім прыйшлося ісці альбо па чыгуначных пуцях, альбо праз чыгуначны мост. Ну і, канешне, хваля народнага гневу справядліва накіравана ў адрас выхавальніц, нянечак, загадчыцы садка. Бо што атрымліваецца: мы адпраўляем раніцай нашых малых дзетак у садок, будучы ўпэўненымі, што аддаём іх у рукі прафесіяналаў, а, аказваецца, дзеці могуць самастойна сысці з дзіцячага садка і нікому да гэтага няма справы?!

### «Бацькі вялікіх прэтэнзій да педагога не прад'яўляюць»

У дзіцячым садку №21 трымаюць маўклівую абарону. Па тэлефоне катэгарычна заяўляюць: "Без каментарыяў". Былая настаўніца гісторыі, жыхарка Светлагорска **Алена Маслюкова** расказала нам: *"Учора я таксама хадзіла ў гэты садок, бо сітуацыя незвычайная. Але дзверы зачынены, вартаўнік кажа, што загадчыцу* ***Алену Галаўко*** *выклікалі ў раённы аддзел адукацыі. На прыступках сабралася многа журналістаў, былі здымачныя групы з БТ, з сайтаў. Але нікога ў садок не пускалі. Бацькі, якія прыходзілі за дзеткамі, таксама на кантакт ісці не хацелі".*

Кіраўнік дзіцячага садка №23 Светлагорска **Святлана Яроцкая** кажа, што ўчора прайшла тэрміновая планёрка з загадчыкамі дзіцячых садкоў раёна. А пазней стала вядома, што выхавальніца групы, з якой збеглі дзеці, ужо звольнена. Аб'яўлена вымова начальніку аддзела адукацыі, спорту і турызму Светлагорскага райвыканкама.

**– У інтэрнэце пішуць: можа, работніцы садка адлучыліся на святкаванне Новага года? Гэта ж быў першы працоўны дзень…**

– Глупства! Такога не можа быць у прынцыпе – каб хтосьці святкаваў на працоўным месцы. Таму што гэта адразу ж звальненне па артыкуле… Не забывайце, што гэта дзеці. Яны падштурхнулі, падгаварылі адзін аднаго і пайшлі. У жыцці ўсякае бывае. І дзякуй Богу, што ўсё абышлося, усе жывыя і здаровыя, – разважае С.Яроцкая.

**– Але ж нейкае пакаранне педагогі мусяць панесці. Ці дастаткова таго, што выхавальніцу ўжо звольнілі з працы?**

– Цяпер ідзе праверка... Наколькі я чула, бацькі дзяцей, якія збеглі з садка, адэкватныя людзі, цвяроза ацанілі ўсё, што адбылося, і вялікіх прэтэнзій да педагога не прад'яўляюць. Але, думаю, што і педагога, і загадчыцу звольняць па артыкуле.

У сваю чаргу афіцыйны прадстаўнік Упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама **Віталій Прыстромаў** паведаміў, што зараз дэталёвую праверку ўсіх абставін інцыдэнту праводзіць інспекцыя па справах непаўналетніх Светлагорскага РАУС, паралельна праходзіць разгляд здарэння і па лініі кіраўніцтва структур адукацыі.

*"Па законе ў нас ёсць 10 дзён, каб прыняць рашэнне: адмовіць альбо распачаць крымінальную справу, калі ў дзеяннях пэўных асоб будуць угледжаны прыкметы складу злачынства*, – кажа Віталій Прыстромаў. – *Наша агульная мэта – надалей не дапусціць падобных інцыдэнтаў».*

У Міністэрстве адукацыі паведамілі, што пытанне аб адпаведнасці займаемай пасадзе загадчыцы ўстановы адукацыі «Яслі-сад №21 г.Светлагорска» будзе разгледжана пасля заканчэння расследавання.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

**ДАСЛОЎНА**

### Міністр адукацыі Ігар Карпенка:

– Абуральны выпадак, які адбыўся з выхаванцамі дзіцячага садка №21 Светлагорска, з'яўляецца вынікам найгрубейшага парушэння педагагічнымі работнікамі сваіх службовых абавязкаў, фармальнага стаўлення да бяспечнага знаходжання дзяцей ва ўстановах дашкольнай адукацыі, адсутнасці кантролю з боку кіраўніка і выхавальніка ўстановы за забеспячэннем бяспекі выхаванцаў.

**ДИПКУРЬЕР**

### Макей принял Гранта

Вчера министр иностранных дел Беларуси **Владимир Макей** принял директора лондонского Центра европейских реформ **Чарльза Гранта**. Стороны обсудили глобальную ситуацию и перспективы развития отношений Беларуси с Западом, другие вопросы.

Центр европейских реформ был создан в 1998 году, его возглавил бывший журналист, автор влиятельного еженедельника «The Economist» Чарльз Грант. Господин Грант активно сотрудничает с Московским офисом Центра Карнеги, специализируется в аналитике евроазиатских отношений – в частности, имеет публикации по отношениям Европы с Китаем. После событий декабря 2010 года Грант дал несколько осторожно-пессимистических комментариев о перспективах сотрудничества Европы с Беларусью после появления в стране политических заключенных.

**СТОП-КАДР**

### В январе – разлив

На Полесье многие реки, каналы выходят из берегов. В Петриковском районе произошло подтопление автодороги талыми и паводковыми водами от реки Птичь.

